# Гэта было ў 1922 годзе

1922 год. Ужо больш года прайшло з часу заключэння Рыжскага трактату паміж Польшчай з аднаго боку, і РСФСР, Беларуссю і Украінай — з другога. Закончыліся ваенныя дзеянні, змоўклі гарматы.

Але па-ранейшаму неспакойна на «Крэсах Усходніх», дзе паны ўстанавілі жорсткі прыгнёт беларускага народа, пазбавілі яго правоў, вялі палітыку ліквідацыі беларускіх школ і культурна - асветных устаноў. Беларускае сялянства адказвала на гэта шэрагам паўстанняў. Паўстанцкія атрады, якія складаліся, галоўным чынам, з моладзі, рабілі нечаканыя напады на паліцэйскія пастарункі, на атрады жандараў-карнікаў, палілі маёнткі. Прытулкам для іх сталі лясы, куды карнікі рабілі наезды, толькі сабраўшы вялікія сілы.

У час аднаго з такіх наездаў атраду жандараў, 10 мая 1922 года ў Белавежскай пушчы ўдалося акружыць паўстанцкі атрад, якім камандаваў Андрэй Тамашук — 21-гадовы сялянскі хлапец з вёскі Дубічы-Царкоўныя, што ў Гайнаўскім павеце. Здавалася, атрад быў у безвыхадным становішчы, асуджаны на пагібель. Аднак мужны камандзір вывеў людзей з акружэння, паўстанцы вырваліся з агнявога кальца. І толькі сам камандзір, а разам з ім паўстанцы - беларусы: Янка Захарчук, Дзямян Мартынюк і Янка Пецялюк трапілі ў рукі жандараў.

У беластоцкай турме паўстанцаў падверглі страшэнным катаванням. Дзе знаходзіцца атрад, колькі ў ім людзей, прозвішчы паўстанцаў — вось далёка не поўны пералік таго, чаго дамагаліся ад іх на допытах. Але ўсе чацвёра, нягледзячы на пакуты, нягледзячы на ўсе пасулы следчых, нічога не сказалі. Тады вайскова-палявы суд прыгаварыў чатырох герояў да расстрэлу.

24 мая 1922 года паўстанцаў павялі на расстрэл. Відавочцы пакарання расказвалі, што Андрэй Тамашук і яго таварышы спакойна і мужна трымаліся да апошняй хвіліны. На турэмным двары, куды іх вывелі, Андрэй Тамашук кінуў у твар катам палымяныя, поўныя веры ў будучыню свайго народа словы:

— Няхай мы загінем, але за намі пойдуць браты - змагары, якія давядуць справу да канца!

Твар афіцэра - жандара перакасіўся ад злосці. Даведзены да шаленства гэтымі словамі, ён выхапіў шаблю. Бліснула сталь, са свістам рассякаючы паветра, і акрываўленае вуха камандзіра паўстанцаў адляцела на некалькі крокаў, а струменьчык крыві зазіхацеў на сонцы, сцякаючы на плячо.

Калі жандары падышлі да асуджаных, каб завязаць ім вочы, Андрэй Тамашук і яго таварышы рашуча адмовіліся ад гэтага, заявіўшы:

— Паўстанцам смерць не страшна!

Целы расстраляных жандары пахавалі тайком, баючыся, каб вестка аб гераічнай смерці мужных патрыётаў не абурыла беларускіх і польскіх сялян.

Разам з Андрэям Тамашуком, Янкам Пецялюком, Дзямянам Мартынюком і Янкам Захарчуком асудзілі таксама яшчэ некалькі дзесяткаў сялян. Амаль усе яны былі асуджаны на катаргу і турму. Многія з іх не вытрымалі жахлівых умоў зняволення. Адным з першых у турме загінулі 19-гадовы хлапец Панцялей (прозвішча невядома) з вёскі Вітава і селянін Барташук з вёскі Грабоўцы.

А. ТРАЯНОЎСКІ

## У аколіцы «дошкамі забітай»

У Шудзялове (Сакольскі павет) мы сустрэліся з маладымі працаўнікамі лекарска-дэнтыстычнага «амбуланса», які праводзіць бясплатнае лячэнне ў вёсках. Такое часовае лячэнне дзяржаве дорага абыходзіцца.

Аддзел здароўя Павятовай рады ў Саколцы плануе ў бягучым годзе пачаць будаваць у гэтай мясцовасці вялікі медыцынскі пункт. Тут будуць працаваць: лекар, акушэрка і зубны лекар. Пад медыцынскі пункт праектуецца адвесці новы прыгожы будынак, абсталяваны паводле асноўных правіл сучаснай медыцынскай тэхнікі, з выкарыстаннем электраэнергіі.

У бліжэйшыя гады ў гэтай аколіцы запланавана таксама пабудова электрычнага млына. Паводле неафіцыяльных даных, будзе ён пабудаваны ў недалёкай Слойцы. Інвестары слушна кіруюцца ў гэтай справе фактам слабога насычання тэрыторыі гаспадарчымі млынамі.

На апошнім вясковым сходзе ўладары мясцовага ГРН забаранілі выпускаць «на папас» свіней. Бываюць гаспадары, якія выпускаюць сваіх «дзікаў» на ўсю ноч. А тыя ходзяць па палях і рыюць сельскагаспадарчыя культуры.

Па другое, праз вёску праходзіць камунікацыйнае шасэ Саколка — Крынкі. Таму тут нядоўга і да выпадку.

Гэтая пастанова выдаецца цалкам слушнай і вартай увагі іншым грамадскім радам. (ся)



*Фрагмент першамайскай маніфестацыі ў Беластоку.*
*НА ЗДЫМКУ: ідуць спартсмены школьнага клуба моладзі агульнаадукацыйнага ліцэя № 1*

Новыя пераклады з беларускай паэзіі

ЯНКА КУПАЛА

## Wyjdę...

Wyjdę ja wyjdę,
Płachetkę wdzieję
I zagon wąski
Gęsto obsieje

Gęsto obsieję
Zbożem ziarnistym
Po polu szarym,
Po kamienistym.

Może zabłyśnie
Nad moją niwą
Dola przyjazna,
Dola życzliwa.

Ogrzeje w chłody.
Zrosi w pogodzie.
Bujnie, bogato
Zagon obrodzi.

Skoszę jesienią
Zagon dojrzały,
Wystarczy chleba
Na roczek cały.

АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

## Obłok

O poranku w wiklinie
Siedzę z wędką i łowię.
A obłok? Płynie
Po niebie i po głębinie.

Bierze nareszcie —
A rybka duża!
Korek i pióro
W obłoku się nurza

Wstrzymuję oddech. Cisza...
Śmiało
Wprawną dłonią
Podcinam okonia,
Wyciągam z chmurki białej.

Na wodzie kręgi
Na wodzie kręgi
I niebo w niej inne...
A obłok? W ręku
Miota się zwinny.

Пераклаў АСТАП ЛАПСКІ

Верш Куляшова ўвайшоў у анталогію савецкай паэзіі «Сто трыццаць паэтаў», нядаўна выдадзеную ў Польшчы.

Мгр. М. КАНАПАЦК 6)

## Творчае сяброўства братніх літаратур

**(Да пытання аб польска—беларускіх літаратурных сувязях у XIX стагоддзі)**

Няхай сведчаннем гэтага будуць наступныя радкі з купалаўскага верша «Лірнік вясковы», у якім паэт хоча «выліць думку».

«Аб музыцы, што лірай сваёй чарадзейскай
Мно ў душы светач выклікаў новы...»

Гэты верш быў напісаны з выпадку пяцідзесяцігоддзя з дня смерці польскага паэта і змешчаны ў польскім часопісе «Літва і Русь» ад 1912 года ў Вільні.

У другой палове XIX ст. узаемасувязі паміж нашымі братнімі літаратурамі яшчэ больш умацаваліся. Пастараемся гэта прасачыць на падставе невялікага агляду. Пэўнае непаразуменне можа выклікаць дыспрапорцыя паміж часткай, з якой мы толькі што пазнаёміліся і часткай, ахопліваючай другую палову XIX ст., а ўласна кажучы, пасляэрэформенны перыяд. Аднак я лічыў, што мэтазгодна будзе больш сказаць аб зараджэнні польска - беларускіх літаратурных сувязей і аб яе першых плённых выніках, а менш аб перыядзе, які патрабуе спецыяльнага даклада. Спадзяюся, што гэты невялікі агляд другой паловы XIX ст. усё-такі ў пэўнай ступені адкажа на хвалюючыя пытанні нават у такім скандэнсаваным выглядзе.

Увасабленнем братніх сувязей паміж польскай і беларускай літаратурай у другой палове XIX ст. была моцная дружба паміж Францішкам Багушэвічам (1840 — 1900) і выдатнай польскай пісьменніцай Элізай Ажэшка (1842—1910). Сцяпан Майхровіч у «Нарысах беларускай літаратуры XIX стагоддзя» аб гэтай дружбе піша: «Францішак Багушэвіч і Эліза Ажэшка ўвасаблялі непарыўнае еднанне перадавых беларускіх і польскіх літаратур у іх агульнай барацьбе за свабоду і лепшую долю братніх народаў».

Ажэшка, так як калісь Сыракомля ў адносінах да Дуніна - Марцінкевіча, горача падтрымлівала першыя творчыя пошукі Багушэвіча на ніве роднай літаратуры. У адным са сваіх пісем (22.II. 1888.) да выдатнага польскага філолага Яна Карловіча (1863—1915), які быў у блізкіх адносінах з беларускім паэтам, яна просіць заахвоціць Багушэвіча да творчасці на беларускай мове. «Быў у мяне на днях п. Багушэвіч, — пісала Ажэшка, — і чытаў мне казку доўгую, поўную фантазіі, вельмі добрую, якую напісаў па-беларуску. Прыгожы гэта талент. Польскія вершы яго слабыя, але беларускія, прынамсі на мой погляд, выдатныя. Трэба было-б усімі сіламі заахвоціць яго да працы ў гэтым кірунку» (Эліза Ажэшка, «Лісты», т. II, ч. I, Варшава — Гродна, 1938, стар. 27).

Вялікую падтрымку аказала Ажэшка Багушэвічу ў справе выдання яго твораў у Польшчы, таму што ў Беларусі беларускае друкаванае слова было забаронена. У 1891 г. у Кракаве выйшла «Дудка беларуская», а ў 1894 г., у Познані — «Смык беларускі». У асобе Багушэвіча, Ажэшка бачыла шчырага песняра беларускага сялянства, гора і пакуты якога ўвабрала ў сябе яго дэмакратычная творчасць. Зусім іншымі былі адносіны да дэмакратызма Багушэвіча з боку рэакцыйных публіцыстаў і крытыкаў. Яны неаднойчы дакаралі Багушэвіча за тое, што ён стварае нейкую «хлопскую» літаратуру. Гэтыя самыя колы таксама неспрыяльна ставіліся да творчасці дэмакратычных польскіх пісьменнікаў. У гэтым выпадку я маю на ўвазе Мілкоўскага, вядомага сваімі апавяданнямі з жыцця украінцаў, венграў і паўднёвых славян яшчэ ў 50-ыя годы XIX стагоддзя.

Багушэвіч на сваім творчым шляху перажываў шмат пакут. Яму пагражалі непажаданыя ўплывы, а над паэтычным дараваннем паяўляўся неаднойчы прывід заўчаснага змарнення. Аднак маральная падтрымка з боку польскай пісьменніцы прадухіляла гэтыя пагрозы. А сам паэт пазней накіроўваў супроць сваіх соцыяльных праціўнікаў выкрывальныя творы.

У 1891 годзе ў сувязі з дваццацігоддзем літаратурнай дзейнасці Элізы Ажэшка, Багушэвіч прысвяціў ёй верш «Яснавяльможнай пані Арэшчыцэ». У ім у простых словах пісаў аб вялікай гуманнасці аўтаркі аповесцей і апавяданняў з жыцця беларускага люду, у якіх знаходзіў столькі шчырай праўды аб гаротным жыцці наднёманскай беларускай вёскі. Прыгадаем некалькі зваротак з гэтага малавядомага верша:

А ты, пані, смела
Заглянула ў хату.
Усё зразумела
І нашаму брату

Працягнула руку,
І сэрцам балела,
Глядзеўшы на муку,
І пяром умела

Выліць смутак гэты, —
Што аж душа рвецца,
Што плачуць кабеты,
Не знаюць, дзе дзецца.

(Працяг на стар. 6)

